*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 11 (550) 13 САКАВІКА 2002 г.

## Ці варта зноў наступаць на граблі?

**Адкрыты ліст Якубовічу П.І., галоўнаму рэдактару "Советской Белоруссии"**

Самая масавая дзяржаўная газета Беларусі "СБ", якая выходзіць за грошы падаткаплацельшчыкаў, не часта піша пра дзейнасць ТБМ на сваіх старонках. Нас згадваюць толькі тады і, вядома, з негатыўным адценнем, калі грамадскі рэзананс нашых спраў б'е не ў брыво, а непасрэдна ў вока ворагаў беларушчыны, што вось ужо некалькі стагоддзяў зацята змагаюцца з нашай мовай, гісторыяй, і культурай.

Апошні раз былы "дэмакрат", а зараз адзін з ідэалагічных слупоў сённяшняга рэжыму Павел Якубовіч пісаў пра нас на першай паласе сваёй газеты 21 лістапада 2000 года, калі гучна бараніў яшчэ аднаго дэмакрата і незалежніка Міколу Статкевіча, што падчас выбарчай кампаніі цалкам адмовіўся ад улётак на роднай мове. Праўду кажучы, гэта яму не дапамагло! Ён цёплае месца ў Палаце не атрымаў.

Прайшоў пэўны час, і зноў Павел Якубовіч 7 лютага 2002 года б'е ў званы, бо з боку ТБМ з'явілася чарговая пагроза. На гэты раз справа ідзе пра адмену ў Нацыянальным тэатры Беларусі неўміручай п'есы Янкі Купалы "Тутэйшыя" і зняцце з радыёэфіру папулярнай беларускамоўнай передачы "Голас душы".

Пасля таго, як грамадскасць Беларусі рашуча выступіла супраць гэтых антыбеларускіх праяваў сутнасці заядлых русіфікатараў, якія ніяк не пераробяць Беларусь у "Северо-Западный край", улады на паўкрок адступілі назад, тым больш, што гэтыя справы атрымалі рэзананс нават у цэнтры аб'яднанай Еўропы, у горадзе Страсбургу.

Было абвешчана, што "Тутэйшыя" зноў вернуцца на тэатральную сцэну, а замест "Голаса душы" з 27 студзеня пачалася паўгадзінная трансляцыя беларускамоўнай імшы з галоўнага касцёла Беларусі.

Як жа такія паразы сваіх новых сяброў можа перанесці шаноўны Павел Якубовіч! Вядома, пасля некалькіх бяссонных начэй, нясгомна смокчучы сваю "сталінскую піпку", спадар Якубовіч рашуча прыступіў да пошукаў ворагаў "вялікай інтэграцыі" з усходнім суседам.

Галоўным ворагам з ліку сяброў ТБМ на гэты раз быў аб'яўлены Іосіф Навумчык, чалавек вельмі вядомы і паважаны на Віцебшчыне, кіраўнік Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ, якая належыць да самых вялікіх і працаздольных структур нашай арганізацыі. Менавіта сябры ТБМ з Віцебшчыны, дзе вернікаў шмат, а колькасць храмаў, асабліва на ўсходзе вобласці, нешматлікая, дзякуючы дзейнасці бальшавікоў, першымі выступілі ў абарону забароненай радыёперадачы і яе вядоўцы.

Таму і ўчапіўся Якубовіч за спадара Навумчыка, які на самой справе доўгі час быў сакратаром Віцебскага абкама партыі, адразу запісаўшы яго ў ворагі царквы, так сказаць, "па пасадзе". І моцна наступіў на чарговыя граблі, бо менавіта дзякуючы намаганням Іосіфа Адамавіча, у савецкія часы былі адноўлены знакаміты Полацкі Сафійскі сабор і шмат іншых храмаў і манастыроў Віцебшчыны. Пасля 1991 года пад кіраўніцтвам Навумчыка была праведзеная рэстаўрацыя Дабравешчанскай царквы XII ст. і Касцёла св. Варвары ў Віцебску, дзе імша вядзецца па-беларуску, а вернікі былі аматарамі передачы "Голас душы".

Таму, сп. Якубовіч, Вы зноў наступілі на граблі падману і хлусні.

Другі раз яшчэ мацней наступіў галоўны рэдактар "СБ" на тыя ж самыя граблі, калі паведаміў усяму свету аб тым, што закрыццю "Голаса душы" спрыялі не хто іншыя, як паважаныя кіраўнікі рымска-каталіцкай царквы на Беларусі.

Каб гэта было б на самой справе так, то тады б напрыканцы снежня падчас апошняй передачы, варта было б аб'явіць слухачам, што з 1 студзеня 2002 году назва і змест передачы мяняецца, і патлумачыць прычыну. Аднак передачу проста знялі з эфіру, і яна на працягу месяца не выходзіла без усялякіх тлумачэнняў, нягледзячы на абурэнне слухачоў не толькі Беларусі, але і за мяжой.

Сціпла маўчаў у гэты час і Павел Якубовіч, магчыма, ціха радуючыся з гэтай нагоды.

На самой справе толькі пасля шматлікіх зваротаў на радыё і ў Міністэрства інфармацыі, дзякуючы намаганням міністра сп. М. Падгайнага, беларускамоўная рэлігійная перадача (дарэчы, пакуль адзіная на нашым дзяржаўным радыё) зноў загучала, праўда, у скарочаным варыянце.

Аб тым, што кіраўніцтва каталіцкага касцёла не было ініцыятарам закрыцця адзінай беларускамоўнай передачы на першым канале нашага дзяржаўнага радыё, сведчыць афіцыйны адказ на наш зварот у Міністэрства інфармацыі, які мы атрымалі за подпісам міністра 1 лютага 2002г. У ім, між іншым, гаворыцца наступнае:

"*Міністэрства інфармацыі сумесна з Белтэлерадыёкампаніяй разгледзела Ваш ліст і паведамляе, што з першага студзеня 2002 года Беларускае радыё перайшло на новую сетку вяшчання. Кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі прапанавала Кардыналу Казіміру Свёнтэку арцыбіскупу Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму вырашыць пытанне аб передачы на беларускай мове на першым канале рэспубліканскага радыё з 8.30 да 9.00 нядзельнай імшы з удзелам прадстаўнікоў Мінска-Магілёўскай архіепархіі рымска-каталіцкай царквы*".

Таму, спадар Якубовіч, Вашыя спробы пасварыць паміж сабой вернікаў і іх святароў бачны, як кажуць нашыя ўсходнія браты, "за цэлую вярсту". Але наўрад ці што з гэтага атрымаецца, бо большасць культурных і інтэлігентных людзей Вашую газету проста не чытае.

Таму раім Вам актывізаваць Вашыя намаганні ў павышэнні іміджу Вашай газеты, чым праводзіць развагі на тэму беларускага адраджэння. Відаць, праўду кажуць простыя людзі ў сваім спрадвечным выслоўі: "Калі не поп, то і ў рызы не ўбірайся".

Ці не падыходзяць часы, шаноўны Павел Ізотавіч, збіраць камяні замест раскідвання іх у розныя бакі?

**Алег Трусаў,**
**Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны.**

## *Лявону Калядзінскаму – 50*

Лявон Уладзіміравіч Калядзінскі нарадзіўся 17 лютага 1952 г. у Менску. Працоўны стаж яго пачаўся з газеты "Вячэрні Мінск", потым у СШ № 1 і затым у арміі. Пасля арміі – вучоба на вячэрнім аддзяленні гістфака БДУ, адначасова – праца ў сектары археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. З чэрвеня 1977 да лістапада 1992 Лявон займаецца археалагічнымі раскопкамі, актыўна працуе ў Таварыстве аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, вядзе работу школы юнага гісторыка і археолага, актыўна выступае на старонках рэспубліканскага і мясцовага друку, у тым ліку, і ў нашай газеце. Асноўныя тэмы яго выступаў: абарона нацыянальных сімвалаў, роднай мовы, гістарычнай памяці Курапатаў.

Доўгі час ён разам з Міхасём Ткачовым даследаваў віцебскі Верхні замак, потым праводзіў шырокамаштабныя археалагічныя раскопкі ў Слуцку і Капылі. На выніках раскопак у Віцебску Калядзінскі абараняе кандыдацкую дысертацыю і з лістапада 1994 года пачынае працаваць дацэнтам у беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М. Танка.



На сваіх лекцыях ён заўжды распавядае студэнтам пра нашу мінуўшчыну, знаёміць з унікальнымі помнікамі гісторыі і культуры Беларусі.

Сакратарыят ТБМ і рэдакцыйная калегія "Нашага слова" віншуе спадара Лявона з першым вялікім юбілеем ў жыцці, жадае яму бадзёрасці духу, творчага натхнення і новых публікацый ды адкрыццяў.

## Беларускае слова душыцца

Недзяржаўныя газеты нягледзячы на дэклараванне роўных умоў для ўсіх сродкаў масавай інфармацыі ў нашай дзяржаве пастаянна аказваюцца газетамі другога гатунку. Прынамсі, у Менскай вобласці.

Гаворка аб 5-працэнтным падатку з продажу ў кіёсках Мінаблсаюздруку. У студзені цэны на недзяржаўныя выданні падскочылі на 5 працэнтаў дзякуючы рашэнню Мінскага абласнога савета дэпутатаў ад 28 снежня 2001 года. У пункце 2 Палажэння "Аб падатку на продаж тавараў у рознічнай гандлёвай сетцы", зацверджаным рашэннем Мінскага абласнога Савета гаворыцца: "Аб'ектам абкладання падаткам на продаж з'яўляецца выручка ад рэалізацыі тавараў у рознічнай гандлёвай сетцы, за выключэннем сацыяльна значных тавараў, якія вызначае Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь".

Савет Міністраў жа выдаў пералік тавараў, на якія "саветы дэпутатаў базавага і тэрытарыяльнага ўзроўню не ўводзяць у 2001 годзе (чытай і ў 2002 годзе – аўт.) падатак на продаж у рознічнай гандлёвай сетцы". І ў гэтым пераліку значацца навуковая прадукцыя і перыядычныя выданні, якія субсідзіруюцца з бюджэту. А тыя, якія не субсідзіруюцца – не значацца.

Не ратуе адзіную ў вобласці масавую недзяржаўную беларускамоўную "Рэгіянальную газету" і тое, што яна беларускамоўная.

Рознічная цана на "Рэгіянальную газету" вызначаецца рэдакцыяй як 210 рублёў, але прадаецца выданне за 221 рубель.

Беларускае слова душыцца, таму што яно не субсідзіруецца з бюджэту.

*Аляксандр Манцэвіч, Маладзечна.*

Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Касавец І.Я. (в.Старыя Пескі) – 2000
2. Валошчык М.А. (г. Белаазёрск) – 500
3. Валошчык Л.Р. (г. Белаазёрск) – 500
4. Шчапёткіна Т.В. (г.Бяроза) – 1000
5. Пунько В.Я. (в.Нівы) – 500
6. Грышчук А.Р. (г.Белаазёрск) – 500
7. Лакішык А.Р. (г.Белаазёрск) – 1000
8. Парфімовіч В.І. (г.Белаазёрск) – 500
9. Ваўчок І.М. (г.Белаазёрск) – 1000
10. Аляксандр Пухоўскі (Менск) – 5.000 р.
11. Незнаёмка (Менск) – 3.000 р.
12. Ціханаў С.А. – 2.500 р.
12. Міцкевіч Я.Ф. – 5.000 р.
13. Шутко Ларыса (Менск) – 2$
14. Лавіцкі М. – 3.000 р.

## Сяброў ТБМ пабольшала

У гэтым месяцы ў Светлагорскай сярэдняй школе № 9 адбыўся сход сяброў ТБМ імя Ф.Скарыны. Група вучняў 9-11 класаў падалі заявы аб уступленні ў ТБМ у гарадскую арганізацыю.

Затым актывам гэтай групы быў скліканы сход, на якім прынята рашэнне аб стварэнні ў школе суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны.

Суполка складаецца з дзевяці сяброў. Старшынём абраны Павел Мацюкевіч. Асноўнай формай дзейнасці, якую абралі сябры суполкі, з'яўляецца распаўсюджванне касетаў вядомых беларускіх рок-гуртоў і бардаў.

*Вадзім Болбас.*



№ 11 (550) 13 САКАВІКА 2002 г. наша слова

# ТРАГІЧНЫ ЛЁС ІМАМА АЛІ ВАРАНОВІЧА

## (да 100-годдзя з дня нараджэння)

У канцы студзеня 1941 г. органамі дзяржбяспекі быў арыштаваны настаўнік роднай мовы, завуч Клецкай няпоўнай сярэдняй школы Алі Варановіч. На той час гэта было звычайнай з'явай для грамадскага жыцця Беларусі, як і ўсяго Савецкага Саюза ў цэлым, хоць найбольш вялікая хваля масавых рэпрэсій прыйшлася на 1936-1938 г.г. Тым не менш і ў наступныя гады ніхто не мог быць гарантаваны ад пільный "цікавасці" да сваёй асобы "органаў" і маючых адбыцца з-за гэтага наступстваў. Асабліва гэта датычалася насельніцтва тых рэгіёнаў, што былі ўключаны ў склад СССР у 1939-1940 г.г. – Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, Прыбалтыкі, Бесарабіі і Паўночнай Букавіны. Савецкая ўлада вырашыла ачысціць гэтыя тэрыторыі і ад так званых "сацыяльна небяспечных элементаў". У Заходняй Беларусі да іх адносілі былых прадпрымальнікаў і заможных землеўладальнікаў, службоўцаў дзяржаўнага апарату, сілавых структураў, вайскоўцаў, палітычных дзеячоў міжваеннай Польшчы (у іх лік нават часам траплялі польскія і беларускія камуністы), духоўных асоб розных канфесій. Да апошніх належыў і Алі Варановіч, які ў канцы 30-х гадоў займаў пасаду духоўнага кіраўніка (імама) мусульманскай абшчыны ў Варшаве.

Алі Самуілавіч (Ізмаілавіч) Варановіч нарадзіўся 1 красавіка 1902 г. у мястэчку Ляхавічы Слуцкага павета Менскай губерні ў сям'і мясцовых шляхціцаў-татараў Самуіла (Ізмаіла) Варановіча і яго жонкі Аміні з роду Шынкевічаў. Большую частку свайго дзяцінства ён правёў разам з бацькамі ў мястэчку Радзівілішкі (Ковенская губерня). У час Першай сусветнай вайны ў 1915 г. пад час наступлення нямецкіх войскаў Варановічы пераехалі як бежанцы ў Вязьму. Потым, у жніўні 1917 г. яны накіраваліся ў Сімферопаль, дзе жылі іх сябры-татары Захары і Мустафа Мурзічы. Тут, у Крыме Алі завяршыў сярэднюю адукацыю ў сімферопальскай гімназіі і некаторы час вучыўся на агранамічным факультэце мясцовага універсітэта.

Пасля заключэння мірнага дагавору паміж Савецкай Расіяй і Польшчай (1921 г.) у красавіку 1922 г. разам з маці і малодшым братам Мустафой (бацька памёр у тым жа годзе) вярнуўся ў родныя мясціны.

Пасля вяртання на радзіму яны аселі на жыхарства ў Вільні. Алі Варановіч стаў вольным слухачом Віленскага універсітэта, а ў 1926 г. ён становіцца студэнтам Львоўскага універсітэта Яна Казіміра, які скончыў у 1932 г. з дыпломам магістра філасофіі ўсходазнаўчых навук. У 1928-1929 гг. праходзіў кароткатэрміновую вайсковую службу, па заканчэнні якой атрымаў званне падхарунжага рэзерву артылерыі Войска Польскага. У 1933-1936 гг., атрымаўшы стыпендыю Міністэрства веравызнанняў і народнай асветы, Варановіч працягваў вучобу ў сусветна вядомым мусульманскім універсітэце Аль-Азхар (г. Каір), дзе вывучаў тэалогію і гісторыю ісламу. Вярнуўшыся ў Польшчу, ён у студзені 1937 г. быў абраны імамам Варшаўскай мусульманскай рэлігійнай абшчыны. Гэтую пасаду ён займаў да верасня 1939 г., калі ў сувязі з пачаткам вайны Германіі з Польшчай ён выехаў разам з жонкай на яе радзіму ў Клецк. Там А. Варановіч жыў і працаваў у школе да арышту ў 1941 г.

Фота з архіву КДБ (студзень - люты 1941 г.)

У Львове і ў час вучобы ў Егіпце Алі Варановіч займаўся даследчыцкай дзейнасцю. Разам з егіпцянінам Сеідам Хамаві падрыхтаваў і выдаў з дапамогай польскага пасольства ў Каіры ў 1936 г. кнігу "Іслам у Польшчы" на арабскай мове. У ёй распавядалася пра жыццё татарскага насельніцтва ў краіне, пра паходжанне і гісторыю татараў, пры гэтым пад Польшчай разумелася тэрыторыя ўсёй Рэчы Паспалітай да яе падзелаў у канцы 18 ст. У Егіпце А. Варановіч падрыхтаваў два артыкулы: "Рэшткі мовы літоўскіх татараў" і "Кітаб літоўскіх татараў і яго змест", якія ўбачылі свет у другім нумары "Рочніка татарскага" у 1935 г. Пазней, будучы ўжо імамам Варшаўскага мусульманскага прыходу, ён працаваў над новай кнігай "Рэлігійная паэзія польскіх мусульман", якая, на жаль, так і не была завершана, а рукапіс кнігі быў канфіскаваны пад час арышту А. Варановіча.

Алі Варановіч у якасці кіраўніка мусульманскай абшчыны сталічнага горада Варшавы падтрымліваў цесныя кантакты як з мусульманскімі абшчынамі ў Польшчы, так і з мусульманскімі святарамі замежных краін, якія пастаянна ці часова пражывалі ў Польшчы. Сярод тых, хто часта сустракаўся з Алі Варановічам, былі вядомыя даследчыкі татар і ісламу – браты Альгерд і Лявон Крычынскія, прадстаўнікі эміграцкіх арганізацый паволжскіх і крымскіх татараў (Аяз Ісхакі, Джафар Сейдамет і іншыя). Так, у 1937-1938 гг. ён прымаў удзел у праведзенні мерапрыемстваў з нагоды 20-гадовых юбілеяў курултаяў казанскіх і крымскіх татараў. Менавіта гэтыя сувязі і ўдзел у вышэйзгаданых і іншых падобных акцыях былі пастаўлены Алі Варановічу ў віну савецкай уладай пад час арышту ў студзені 1941 г., пра што сведчаць матэрыялы следчай справы.

На допыце ад 1 лютага 1941 г. яму было прад'яўлена наступнае абвінавачванне:

**Пытанне:** *Вам прад'яўляецца абвінавачванне па арт. 68 і 74 крымінальнага кодэксу БССР, гэта значыць у тым, што вы праводзілі шпіёнска-дыверсійную працу супроць СССР на карысць замежных разведак. З 1936 па 1939 гг. служылі ў г. Варшаве муллой і былі членам Вышэйшай калегіі татараў былой Польшчы, з'ўляліся членам арганізацыі "Ідэль-Урал". Прызнаеце вінаватым у прад'яўленым абвінавачванні?*

**Адказ:** *У прад'яўленым мне абвінавачванні па арт. 68 і 74 КК БССР прызнаю толькі ў тым, што служыў са студзеня 1937 г. па жнівень 1939 г. муллой у г. Варшаве, а таксама з'яўляўся членам Вышэйшай калегіі мусульманаў былой Польшчы. Шпіянажам я ніколі не займаўся.*

Потым, праўда, Алі Варановіч прызнаў сябе вінаватым у контррэвалюцыйнай дзейнасці. Гэта бачна, напрыклад, з матэрыялаў допыту ад 3 сакавіка 1941 г.

**Пытанне:** *Калі і дзе ўвайшлі ў склад контррэвалюцыйных мусульманскіх арганізацый?*

**Адказ:** *У склад контррэвалюцыйных эміграцкіх арганізацый увайшоў па прапанове кіраўнікоў дадзеных арганізацый: былога генеральнага сакратара Усходняга Варшаўскага інстытута Альгерда Гуркі; былога пракурора Вышэйшага суда Польшчы – ён жа старшыня Культурна-асветнага аб'яднання татараў у Польшчы і старшыня духоўнай управы мусульманаў г. Варшавы Альгерда Крычынскага; віца-старшыні акруджнога суда ў Гдыні – ён жа віца-старшыня культурна-асветніцкага аб'яднання былой Польшчы і "Рочніка Татарскага" рэдактара – Лявона Крычынскага; выкладчыка турэцкай мовы ва Усходнім Варшаўскім інстытуце доктара Абдулы Згні і ўцёкшага ў 1933 г. з СССР у Тэгеран, а потым у Польшчу Эдзіге Шынкевіча* (Э. Шынкевіч даводзіўся А. Варановічу стрыечным братам), *які атрымаў заданне па правядзенні сярод польскіх татараў пэўнай работы, накіраванай супроць Савецкага Саюза, яшчэ ў Турцыі ад Джафара Сейдамета, які ў 1918 г. быў міністрам замежных спраў Крымскай буржуазнай рэспублікі. Потым эміграваў у Турцыю. Ён з'яўляўся кіраўніком эміграцкай арганізацыі крымскіх татараў.*

На допыце ад 6 сакавіка таго ж года Алі Варановіч працягваў даваць паказанні аб сваёй дзейнасці.

**Пытанне:** *У склад якой контррэвалюцыйнай арганізацыі вы ўвайшлі і як яна называлася?*

**Адказ:** *У канцы 1937 г. я ўвайшоў у склад двух контррэвалюцыйных эміграцкіх арганізацый – арганізацыі крымскіх татараў і арганізацыі казанскіх татараў, г.зн. "Ідэль-Урал", мэты і задачы іх былі адны і тыя ж..."*



ПАСПОРТ

№ 616780

1-ЛУ № 616780

Пашпарт Алі Варановіча, выдадзены ў жніўні 1940 г.

Аднак пры ўважлівым вывучэнні матэрыялаў следчай справы можна ўбачыць, што ўся канкрэтная "контррэвалюцыйная" дзейнасць А. Варановіча зводзілася да ўдзелу ў рознага роду грамадскіх мерапрыемствах (урачыстыя сходы, вечары, прыёмы і г.д.). Такім чынам, грамадская дзейнасць Алі Варановіч была прызнана раўназначна падрыўной. І гэта нягледзячы нават на тое, што ён атрымаў савецкі пашпарт толькі ў 1940 г., а да восені 1939 г. з'яўляўся грамадзянінам Польскай дзяржавы. Таму яго дзейнасць ніяк немагчыма вытлумачыць як злачынную, нават калі кіравацца тагачасным савецкім заканадаўствам, паколькі Алі Варановіч на той час не з'яўляўся грамадзянінам СССР. На нашу думку, прычынай яго "прызнання" ў "контррэвалюцыйнай" дзейнасці з'яўляецца тое, што на яго, хутчэй за ўсё, пад час арышту быў аказаны як псіхалагічны, так і фізічны ўціск. Можна меркаваць, што былы варшаўскі імам па прычыне сваёй мінулай дзейнасці быў залічаны да так званых вышэй названых "сацыяльна небяспечных элементаў". Якраз у гэты час наркомам унутраных спраў Савецкага Саюза быў Лаўрэнці Берыя, які выдаў дырэктыву аб чыстцы далучаных да СССР рэгіёнаў ад падобнага роду асобаў, пра што ўжо было сказана раней.

На вялікі жаль, няма ніякай інфармацыі аб далейшым лёсе Алі Варановіча пасля таго, як вясной 1941 г. ён быў этапаваны з баранавіцкай турмы ў Менск, у цэнтральную турму НКУС Беларусі. Яго сляды губляюцца ў віхуры ваеннага ліхалецця. Дакладна вядома толькі адно: дадому, да сям'і і сваякоў ён больш не вярнуўся. Застаецца толькі спадзявацца, што наша публікацыя хоць нейкім чынам зможа пасадзейнічаць у высвятленні яго лёсу. Больш падрабязна следчая справа Алі Варановіча друкавалася ў квартальніку "Байрам" за 1996-2000 гг.




Сімвалічны помнік Алі Варановічу на татарскіх могілках у Варшаве (сучасны выгляд)

*І. Канапацкі,*
*А. Лашкевіч,*
*кандыдаты гістарычных навук.*

**Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускае грамадскае згуртаванне татар "Зікр уль-Кітаб" арганізуюць і праводзяць 24-25 траўня 2002 г.**

**VIII міжнародную навукова-практычную канферэнцыю на тэму:**

***"Мячэці і мізары татар Беларусі, Літвы і Польшчы"***

**(Да 100-годдзя другой менскай мячэці).**

На канферэнцыі плануецца абмеркаваць наступныя пытанні:
- Гістарыяграфія і крыніцы праблемы "Мячэці і мізары татар Беларусі, Літвы і Польшчы";
- Археалагічныя помнікі татараў на Беларусі, у Літве і Польшчы;
- Праблемы захавання і вывучэння помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры татараў Беларусі, Літвы і Польшчы";
- Заканадаўчыя акты аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны татараў на Беларусі, у Літве і Польшчы і іх прымяненне на практыцы;
- Гісторыя і сучасны стан мячэцяў і мізараў на Беларусі, у Літве і Польшчы;
- Жыццё і дзейнасць духоўных асобаў у мусульманскіх абшчынах Беларусі, Літвы і Польшчы;
- Свяшчэнныя кнігі татавр-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы;
- Мусульманскія традыцыі і звычаі татараў Беларусі, Літвы і Польшчы;
- Фальклёр беларускіх, літоўскіх і польскіх татараў.

Рабочыя мовы канферэнцыі: беларуская, літоўская, польская, руская, англійская, татарская.

Тэксты выступленняў і заяўкі для ўдзелу ў канферэнцыі з асабістымі звесткамі (прозвішча, імя, імя па бацьку, навуковая ступень, месца працы, службовы або хатні адрас і нумар тэлефона) прымаюцца да 1 траўня 2002 г.

Агульныя патрабаванні да тэкстаў выступленняў:
- аб'ём: да 10 старонак машынапіснага тэксту, надрукаванага праз 1,5 інтэрвала на паперы фармату А4;
- палі: зверху, злева, знізу – па 2,5 см, справа – 1,5 см.;
- спасылкі на літаратуру ў канцы тэкста;
- загаловак друкуецца вялікімі літарамі, у наступным радку (праз 2 інтэрвалы) указвыаюцца ініцыялы, прозвішчы аўтараў і сааўтараў, назва навуковай і вучэбнай установы;
- тэкст загалоўка друкуецца праз 1,5 інтэрвала.

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі і тэксты выступленняў просім дасылаць на адрас: 220131, г. Мінск, вул. Мірашнічэнкі, д. 51, кв. 312, Канапацкаму І.Б., тэл. 261-84-93.

**Аргкамітэт.**

# На курсах беларускай мовы

Нядаўна я наведала заняткі на курсах па беларускай мове, якія праводзяцца ў Таварыстве беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Звычайна выкладае там Станіслава Тадэвушаўна Філіповіч. Але на гэты момант лекцыю чытала Людміла Дзіцэвіч, намеснік старшыні ТБМ выкладчык БДУ культуры. Людміла Мікалаеўна расказала ўсім прысутным аб развіцці і ўзнікненні беларускай мовы, аб зменах, якія ў ёй адбываюцца, дала найбольш цікавыя факты пра пераклады словаў, спасылалася на словы В. Рыч, калі тая казала, што мы служылі мастом паміж Усходам і Захадам, аддалі ўсё Усходу і Захаду, а на масце нічога не засталося. Расказала пра меры русіфікацыі. Асабліва ўразіла прысутных як у падручніках маляваўся вобраз беларуса: непрыгожы, маларослы, з рэдкімі валасамі, харчуецца хлебам з "отрубями" , жыве ў курных хатах, рамёслаў ніякіх не знае. Вельмі складана ўявіць, што таклое можа быць напісана ў падручніку.

Нам усім неабходна ведаць, што беларусы самі сваю мову не нішчылі, ад яе не адмаўляліся, гэта рабілася па законах, цыркулярах, загадах.

Як распавяла спадарыня Людміла выкладчыкам, за выкладанене на рускай мове, давалася 50% надбаўкі да акладу, прадстаўлялі жыллё і харчаванне, у школах характар падручнікаў быў не беларускі. Наогул беларускія школы і ВНУ былі закрыты.

Аказваецца, знішчэнне нашых імёнаў пачалося ў 19 ст. Расейскі пісар перапісваў Янку на Івана, Хведара на Фёдара, Змітрака на Дзмітрыя, а Гальяша на Ілью. Цікава было слухаць як нараджалася новая літаратурная мова, які подзвіг здзейснілі нашы пісьменнікі: трэба было напісаць на забароненай мужыцкай мове творы, выдаць іх за мяжой, цераз кніганошаў унесці ды яшчэ распаўсюдзіць, каб беларусы маглі чытаць па-свойму.



**На Аршаншчыне**

Курсанты ў групе падабраліся самыя розныя, рознага ўзросту, рознага статусу. На курсах займаецца Кастусь – вучань 7-га класа, які прыходзіць са сваёй маці Людмілай, выхавацелькай дзіцячага садка, вучні гімназіі № 4 Зміцер і Андрэй, спадарыня Таццяна, пенсіянер спадар Барыс і інш. Усяго ў групе 23 чалавекі. Група вельмі дружных аднадумцаў з'яднала спадарыня Станіслава Філіповіч. Курсанты вельмі любяць сваю выкладчыцу, яны лічаць, што лепшых выкладчыкаў не бывае. Слухачы паважаюць яе за адданасць Аршанскай зямлі, за вернасць Караткевічавым творам, за апантанасць родным словам.

Група з выкладчыцай наведалі галерэю мастацтваў, Аршаншчыну, запрашалі гасцей: І. Лосіка, С. Багданкевіч і інш.

Я спытала слухачоў чаму яны ходзяць на курсы. Аказваецца, адным патрэбна веданне мовы для душы, другім веданнее мовы для паступлення, спадарыні Таццяне мова неабходна для таго, каб пагаварыць на ёй з унукамі, бо яна ўпэўненая, што унукі будуць жыць у незалежнай дзяржаве з беларускай мовай. Камуніст з трыццацігадовым стажам Барыс пазбыўся спадчыны савецкага мінулага і вырашыў стаць сапраўдным беларусам, урастаючы у нацыянальнае асяроддзе. А спадарыня Таццяна лічыць, што калі на аднаго беларуса з дапамогай Станіславы Філіповіч, стане больш, мы будзем мацнейшымі.

На курсах выспяваюць свае публіцысты, журналісты, барды. Так Зміцер Буданаў рыхтуе паведамленні пра народныя святы. Бард Васіль Равінскі друкуецца ў "Беларускай маладзёжнай", а ў яго рэпертуары больш за 100 беларускіх песень. Святлана Багданкевіч знаёміць з музыкай Сярэднявечча, Адраджэння.

Я бачыла, што двухгадовая праца з'яднала людзей, паклікала іх у паход за мовай, і я радавалася, што нас становіцца болей.

*І. Секяржыцкая.*

# Да дзяцей прыйшоў паэт

У дзіцячым садку № 266 г. Менска пачэснае месца займае беларуская кніга, беларускае слова. Дзеці з задавальненнем падарожнічаюць разам з "Маленькім чалавекам у вялікім свеце" Алеся Бадака, разам з Віктарам Гардзеем стараюцца зразумець "Ветлівых суседзяў" і знайсці адказ на пытанне "Чый букецік лепшы?", з радасцю трымаюць у руках цудоўна аформленыя "Жывую кнігу прыроды" (выдавецтва "Бацькаўшчына") і "Зямлю з блакітнымі вачыма" (выдавецтва "Беларусь"). Але такое, каб да дзяцей прыйшоў аўтар любімых імі твораў, адбылося ўпершыню за 30 гадоў гісторыі гэтага садка.

***Зімка, зімачка, зіма!***
***Нешта снегу ўсё няма***
***Снегу дай пушыстага,***
***Серабрыста-чыстага!***

Гэта дзеці заклікаюць зіму, просяць:

***Снегу зімачка, дай,***
***Хай святочным стане край!***

І зімка, як бы паслухаўшы іх адгукаецца. Праўда, за вокнамі і дагэтуль ішоў снег, але закруціліся сняжынкі яшчэ стараннеі. А можа гэта толькі здалося?! Тое, чаго жадаеш, успрымаецца больш адчувальна. Тым больш у дзіцячым уяўленні. І дзеці клікалі зіму са снегам. Клікалі мноствам звонкіх галасоў. Клікалі старанна. Хацелі парадаваць снегам сябе, а яшчэ больш прыйшоўшага ў госці паэта Васіля Жуковіча, бо словы былі менавіта з яго верша. Паслухалася прырода, паслухаўся і паэт. Адгунуліся на запрашэнне. І як часта бывае ў дзіцячым жыцці перапляліся рэальнае і казачнае, згубілі свае межы. І многае незвычайнае стала сапраўдным. Сапраўдным быў паэт, сапраўдным быў пірог-каравай, якім у адпаведнасці з народнай традыцыяй сустракалі дзеці і супрацоўнікі паэта. А вось санкі, на якіх дзеці каталіся ў час гульні, былі ўяўнымі. Але дзеці з задавальненнем каціліся на іх, а пасля "падалі" у гурбу. Па-сапраўднаму падаў са сваіх санак і паэт і гэтым яшчэ бліжэй стаў да дзяцей.

А пасля гульні зноў чыталі вершы, спявалі песні. Паэту загадвалі загадкі, а ён старанна адгадваў (хоць сам прыдумаў і змясціў іх у сваіх кнігах). А пасля Васіль Жуковіч з прыемнасцю пазнаў у малюнках дзяцей герояў сваіх твораў і атрымаў гэтыя малюнкі, як самы дарагі падарунак. А ў адказ дзеці атрымалі ў падарунак кнігу паэта "Ад казкі да спектакля". На завяршэнне сустрэчы фальклёрны калектыў супрацоўніц дзіцячага садка праспяваў госцю песню "Залатая рыбка" на яго словы, а па зале ў гэты час праплывалі малюнкі з пажаданнямі дзяцей, дзеці прасілі ў рыбкі выканання сваіх пажаданняў і тых, аб якіх напісаў паэт у вершы.

Няхай збудуцца іх пажаданні і не забудзецца гэтая сустрэча. Няхай здаровымі і творчымі застаюцца ўсе супрацоўнікі садка, праз якія прайшло ўжо не адно пакаленне дзяцей, дзяцей былых выхаванцаў.

***Разалія Туфкрэо.***

## Паэтычная вечарына ў Вільні

Міхася Скоблу ў Вільні ведаюць добра. Прынамсі я, сачу за яго творчасцю. У 1998 годзе ў нашым горадзе адбылася сустрэча з паэтам. Віленчукі слухаюць яго перадачы на Радыё Свабода. А нядаўна тут адбылася паэтычная вечарына, прысвечаная яго творчасці. Вершы з апошняга зборніка "Нашэсце поўні" і зборніка "Вочы савы" чытала Л. Мілаш, прымалі ўдзел і вучаніцы 12 класа Грыгішскай школы. У праграме прагучалі вершы: "Маўчанне-ноч", "Чатыры паклоны лесу", "Душы дрэваў", "Дрэвы" і іншыя. Ён піша верпшы і для дзяцей, аўтар зборніка "Камень-перунок", гістарычнай кнігі "Дзярэчынскі дыярыюш". А прадмова М. Скоблы да выбранага Ларысы Геніюш у "Беларускім кнігазборы", навуковае даследаванне творчасці паэткі, больш грунтоўнага і па аб'ёму і па зместу пра паэтку яшчэ не напісана. У Вільні традыцыйна адзначаюцца не толькі круглыя даты беларускіх паэтаў, але і цікавяцца творчасцю таленавітых маладых.

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*

# Жывуць народныя абрады



Супрацоўнікі Крычаўскага раённага цэнтра культуры збіраюць у вёсках, пасёлках народныя абрады, звычаі і фальклёр. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці Сакольніцкага сельскага Дома культуры паказалі ім абрад "Улазіны" (на здымку).

**Фота Валерыя Бысава, БелТА.**

